# Голас Радзімы

№ 44 (2030)
29 кастрычніка 1987 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



Мікола МЯТЛІЦКІ.

У восені — вільготныя вятры
і спеўны грай расстайнае дарогі.
За лесам гасне вогнішча зары,
Агністы ліст страсаючы пад ногі.

У садзе ззяблай яблыні галлё
Гушкае кроплі росныя, жывыя.
Размяклай, учарнелаю раллёй
Да ног сцяжыны ліпнуць палявыя.

У восені — світальная туга
Пасецца ў панадрэччы туманамі.
І зоркі не варожаць больш над намі.
Спяць мякка травы пахкія ў стагах,

І мы,
што мройна зоркамі жылі
Дасветнай прахалоднаю гадзінай
Прыкутыя да сцішанай зямлі
Пад стылым небам
восені адзінай.

ДА 70-ГОДДЗЯ КАСТРЫЧНІКА

## ДНІ БЕЛАРУСКАЙ ССР НА ВДНГ У МАСКВЕ

Напярэдадні свята Вялікага Кастрычніка на ВДНГ — галоўнай выстаўцы краіны праходзяць Дні савецкіх рэспублік. Пасланцы кожнай з братніх рэспублік прыязджаюць у Маскву са своеасаблівай справаздачай аб тым, што зроблена за 70 год.

Цёпла і сардэчна, букетамі чырвоных ружаў сустрэлі масквічы на мінулым тыдні пасланцоў Савецкай Беларусі. У складзе афіцыяльнай дэлегацыі рэспублікі, якую ўзначаліў намеснік Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР У. Мікуліч, перадавікі вытворчасці, вядомыя вучоныя, дзеячы літаратуры і мастацтва, партыйныя і савецкія работнікі.

Свята пачалося з Выстаўкі дасягненняў народнай гаспадаркі. Пад гукі музыкі па галоўнай алеі ўдзельнікі Дзён прайшлі да цэнтральнага павільёна. Па добраму старадаўняму звычаю іх сустрэлі хлебам-соллю на вышытым ручніку.

Пасланцы Беларусі ўсклалі кветкі да падножжа помніка У. І. Леніну ў цэнтры выставачнай плошчы. Тут жа, ля цэнтральнага павільёна, адбыўся мітынг-канцэрт.

Беларуская дэлегацыя наведала цэнтральны павільён выстаўкі, дзе разгорнута экспазіцыя «Паскарэнне сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны». Пасля яе агляду члены дэлегацыі пасадзілі на алеі 70-годдзя Вялікага Кастрычніка блакітную елку. Адбылася прэс-канферэнцыя для работнікаў друку, радыё і тэлебачання, прысвечаная адкрыццю Дзён Беларускай ССР.

У наступныя дні адбыліся сустрэчы пасланцоў Беларусі ў працоўных калектывах Пралетарскага і Чырвонагвардзейскага раёнаў сталіцы: аўтазавода імя Ліхачова—першынца айчыннага аўтамабілебудавання, навукова-даследчага інстытута тэхналогіі аўтамабільнай прамысловасці, вытворчага аб'яднання «Маскамплектмэбля», абутковага вытворчага аб'яднання «Зара».

Беларуская дэлегацыя прыйшла на Красную плошчу да Маўзалея У. І. Леніна, каб аддаць даніну павагі правадыру рэвалюцыі. У. Швароў, токар-расточнік Гомельскага станкабудаўнічага завода імя С. М. Кірава, успомніў сваіх землякоў з вёскі Грабаўка, якім выпаў вялікі гонар удзельнічаць у будаўніцтве Маўзалея.

Члены дэлегацыі ўсклалі вянок да падножжа Маўзалея.

У той жа дзень пасланцы Беларусі наведалі Музей Рэвалюцыі СССР, дзе адбылася сустрэча з масквічамі—ветэранамі партыі і вайны. Ішла размова аб памятных гадах нашай агульнай гісторыі, аб людзях, якія стваралі яе.

Праграма Дзён была вялікай і насычанай. У кінатэатры «Мінск» кінематаграфісты рэспублікі выступілі з творчай справаздачай перад патрабавальным маскоўскім гледачом.

У дзень закрыцця Дзён на ВДНГ, як заўсёды, мнагалюдна было ля стэндаў беларускага раздзела экспазіцыі «70 гадоў пад сцягам Вялікага Кастрычніка», калі з экспанатамі раздзела азнаёмілася каля 25 тысяч чалавек—больш, чым звычайна.

Задоўга да пачатку тэатралізаванага народнага гуляння плошча ля фантана «Дружба народаў» была запоўнена. А калі на ўсю шыр зазвінеў звонкі голас цымбалаў, запрашаючы прысутных на вясёлае свята, разам з артыстамі закружыліў у карагодзе і гледачы.

Не ўмясціла вялікая зала павільёна тавараў народнага спажывання ўсіх жадаючых трапіць на развітальны спектакль тэатра моды з Мінска. Як заўсёды ў гэтыя дні, у шчыльным кальцы гледачоў, тварылі цуды з лазы і саломкі, льну і гліны народныя ўмельцы. Доўга не адпускалі аматары эстрады беларускіх артыстаў, якія выступілі з заключным канцэртам.

— Дні Беларускай ССР прайшлі з вялікім поспехам,— сказала намеснік дырэктара ВДНГ СССР А. Бартколеўская аб выніках Дзён нашай рэспублікі ў Маскве.—У нейкай меры яго прадвызначыла велізарная, я сказала б, усесаюзная цікавасць да рэспублікі, да добрых яе спраў і пачынанняў, да першых вынікаў перабудовы. І яшчэ—шчырая любоў да мужнага і працавітага беларускага народа. А галоўнае ўсё-такі—дасягненні Беларусі, аб якіх яе пасланцы змаглі расказаць вобразна, пераканаўча і ў той жа час гранічна аб'ектыўна, самакрытычна. І не выпадкова галоўны выставачны камітэт адзначыў экспазіцыю, арганізацыйную і прапагандысцкую работу, праведзеную пасланцамі Беларусі, Дыпломам гонару ВДНГ СССР.



НА ЗДЫМКУ: хлеб-соль членам беларускай дэлегацыі ў час урачыстай сустрэчы на ВДНГ СССР.

ЖЫВЁЛАГАДОЎЛЯ



**Чацвёрты год дзейнічае на Брэстчыне ў саўгасе імя 60-годдзя Кампартыі Беларусі комплекс па вырошчванню нецеляў. Укараненне прагрэсіўных метадаў працы, заснаваных на апошніх дасягненнях навукі, перадавой практыкі, дазваляюць гаспадарцы дамагацца высокіх вынікаў.**

**Па разліках спецыялістаў, за год комплекс прынясе саўгасу больш за 150 тысяч рублёў чыстага прыбытку.**

**НА ЗДЫМКУ: на комплексе.**

МЭРЫ ГАРАДОЎ

## ЗНАЁМСТВА З РЭСПУБЛІКАЙ

У Беларускай ССР знаходзілася дэлегацыя Асацыяцыі муніцыпалітэтаў Рэспублікі Эквадор, якая прыбыла па запрашэнню Савета Міністраў БССР. У яе састаў уваходзілі мэры некалькіх гарадоў.

Госці з Эквадора былі прыняты намеснікам Старшыні Савета Міністраў рэспублікі М. Макаедам, які расказаў аб развіцці эканомікі і культуры рэспублікі ў бягучай пяцігодцы, пераменах, якія адбываюцца ва ўсіх сферах грамадскага жыцця ў працэсе перабудовы.

Дэлегацыя наведала Дзяржаўны музей БССР і ВДНГ БССР, зрабіла экскурсію па Мінску. Госці пабывалі на Беларускім аўтамабільным заводзе ў Жодзіне, дзе азнаёміліся з работай цэхаў, галоўнага канвеера, гутарылі з кіраўнікамі, спецыялістамі, рабочымі.

Затым члены дэлегацыі з Эквадора зрабілі паездку ў Брэст, у час якой агледзелі горад і яго славутасці, новыя раёны, наведалі мемарыяльны комплекс «Брэсцкая крэпасць-герой».

У той жа дзень мэры некалькіх гарадоў Эквадора пабывалі ў садзе дружбы саўгаса «Рас[illegible]», агледзелі вытворчыя аб'екты і жылы пасёлак калгаса-камбіната «Памяць Ільіча» Брэсцкага раёна, наведалі музей прыроды запаведнапаляўнічай гаспадаркі «Белавежская пушча».

Прэзідэнт Асацыяцыі муніцыпалітэтаў Эквадора, мэр горада Рыябамба Арнальда Мерына Мунас ад імя дэлегацыі выказаў сардэчную падзяку за цёплы прыём на беларускай зямлі.

КОРМАВЫТВОРЧАСЦЬ

## ЦЭННАЯ ДАБАЎКА

Папоўніць дэфіцыт кансервантаў для сіласавання кармоў гаспадаркам Гродзенскай вобласці дапамаглі хімікі вытворчага аб'яднання «Азот» імя Прытыцкага. Па рэцэптуры, распрацаванай супрацоўнікамі інстытута біяхіміі АН БССР і Гродзенскага сельскагаспадарчага, тут з адходаў асноўнай вытворчасці наладжаны выпуск новага вадкага прэпарата.

Выпрабаванні ў гаспадарках паказалі, што «сбан» (сульфіт-бісульфіт амонія і натрыя)—так названа навінка—значна павышае ўтрыманне пажыўных рэчываў у корме, узбагачае яго пратэінам і фосфарам.

Ёсць у яго і яшчэ адна каштоўная ўласцівасць: састаў нейтралізуе нітраты, шкодныя для жывёлы і чалавека.

ВЫСТАЎКІ

## ДЭМАНСТРУЕ «ДРЭГЕРВЕРКЕ»

У Мінску прайшла выстаўка заходнегерманскай фірмы «Дрэгерверке» **«Сучасная медыцынская тэхніка ў педыятрыі».**

«Дрэгерверке»—адна з вядучых заходніх фірм па вытворчасці наркоза-дыхальнай апаратуры, стацыянарных і перасоўных інкубатараў дляназірання і догляду неданошаных немаўлят, іншага абсталявання для радзільных дамоў, апаратаў тыпу «штучнае лёгкае». Сярод экспанатаў выстаўкі і найноўшы апарат для штучнага дыхання «EVA» з камп'ютэрнай прыстаўкай, які выкарыстоўваецца пры працяглым лячэнні пацыента.

Штогод фірма наладжвае ў СССР тры-чатыры выстаўкі. Толькі ў апошні час яны прайшлі ў Маскве, Ленінградзе, Кіеве, Ташкенце і ўсюды сустракалі шчырую зацікаўленасць савецкіх людзей да экспазіцый, цёплыя адносіны, адзначыў прадстаўнік фірмы Р. Элерс.

Беларуская сталіца не стала выключэннем. Пытанні наведвальнікаў пераканалі ў тым, што беларускія ўрачы выдатна ведаюць сваю справу, разбіраюцца ў магчымасцях сучаснай тэхнікі.

РАСПРАЦОЎКІ ВУЧОНЫХ

## ДЭТАЛІ З ПАРАШКУ

Калектыў Віцебскага тэхналагічнага інстытута лёгкай прамысловасці распрацаваў установку для няспыннага фармавання вырабаў з парашковых матэрыялаў. Яна прызначана для нанясення пакрыццяў на вонкавыя паверхні загатовак, атрымання шматслойных дэталей.

Вырабы, якія атрымліваюць на гэтай установцы, могуць быць выкарыстаны ў станкабудаванні, прыборабудаванні і аўтамабілебудаванні, медыцынскай тэхніцы, нафтавай і хімічнай прамысловасці ў якасці фільтраў, фрыкцыйных, антыфрыкцыйных матэрыялаў і электродаў.

АХОВА ЗДАРОЎЯ

## КЛОПАТ АБ ГАРАДЖАНАХ

Пастаянна ўмацоўваецца матэрыяльная база аховы здароўя ў Баранавічах. Некалькі гадоў назад тут прыняла першых пацыентаў новая паліклініка для дарослых, летась пачала функцыяніраваць дзіцячая, а ў бягучым годзе ўведзены ў эксплуатацыю лячэбны корпус анкалагічнага дыспансера.

Лячэбны корпус дыспансера аснашчаны самым сучасным айчынным і імпартным абсталяваннем. Шырокае прымяненне знайшлі новыя метады абследавання хворых. Усё гэта дае спецыялістам магчымасць ставіць дакладны дыягназ.

ТАВАРЫ — НАРОДУ

## АРЫГІНАЛЬНЫЯ ВАГІ

Мінскі доследны завод «Эталон» асвоіў вытворчасць і пачаў пастаўляць у рознічны гандаль настольныя квадратныя бытавыя вагі НКБ-025. Вымяральны прыбор такога тыпу выпускаецца ў краіне ўпершыню. Ён мае дзве пераключаемыя мяжы ўзважвання: ад нуля да 250 грамаў і ад нуля да 50 грамаў. Цана дзялення шкалы першай мяжы—5 грамаў, другой—1 грам, што дазваляе ўзважваць з неабходнай дакладнасцю малыя колькасці прадуктаў ці іншых рэчываў. Цікава адзначыць: вагі маюць шкалу для вызначэння каларыйнасці, будуць камплектавацца ў далейшым і дадатковымі шкаламі для вызначэння бялкоў, тлушчаў і вугляводаў, якія ўтрымліваюцца ў прадуктах, што ўзважваюцца. Гэта важна для тых, хто мае патрэбу ў прыгатаванні рацыянальнага дыетычнага і дзіцячага харчавання. Вагі спатрэбяцца і ў хатняй гаспадарцы, калі неабходна адмераць невялікія дозы спецый, прыпраў і іншых кампанентаў пры кансерваванні, прыгатаванні кандытарскіх і кулінарных вырабаў.

СХОДЫ

## У ГОНАР ААН

Грамадскасць Мінска адзначыла Дзень Арганізацыі Аб'яднаных Нацый і пачатак Тыдня дзеянняў за раззбраенне.

Адкрываючы ўрачысты сход, Старшыня Вярхоўнага Савета БССР І. Навуменка, у праватнасці, сказаў, што Арганізацыя Аб'яднаных Нацый, якая паставіла сваёй мэтай збаўленне будучых пакаленняў ад бедстваў вайны, даказала сваю жыццяздольнасць ва ўмовах свету, які хутка мяняецца. ААН з'яўляецца унікальным і самым прадстаўнічым форумам міжнароднага супрацоўніцтва ў розных галінах, важным інструментам падтрымання міру і міжнароднай бяспекі.

На сходзе было зачытана пасланне генеральнага сакратара ААН Х. Перэса дэ Куэльяра з выпадку Дня ААН.

Удзельнікі сходу накіравалі ў адрас генеральнага сакратара ААН пісьмо, у якім падкрэсліваецца рашучасць савецкіх людзей унесці важкі ўклад у справу захавання і ўмацавання міру.

ГОСЦІ З-ЗА МЯЖЫ

## ДЭЛЕГАЦЫЯ ПАРТЫІ ФРЭЛІМО

Дэлегацыя партыі ФРЭЛІМО (Народная Рэспубліка Мазамбік) на чале з сакратаром ЦК Жалеў Карылью, якая знаходзілася ў Савецкім Саюзе па запрашэнню ЦК КПСС, наведала Мінск. Мазамбікскія госці мелі гутарку ў ЦК КПБ, якая прайшла ў цёплай, дружалюбнай абстаноўцы. Госці зрабілі экскурсію па горадзе, наведалі Дом-музей І з'езда РСДРП.

*ЧАС ВЯЛІКІХ ЗМЕН*

# НОВЫЯ ПОГЛЯДЫ НА ФОРМЫ ЎЛАСНАСЦІ

Чэрвеньскі (1987 года) Пленум ЦК КПСС і шырокая дыскусія па праблемах перабудовы, якая адбылася перад ім, паказалі, у прыватнасці, што ў нас пачаўся працэс перагляду адносін да форм уласнасці пры сацыялізме, іх месца і ролі ў грамадскай вытворчасці. «Нам трэба, выходзячы з патрэб развіцця савецкага грамадства на сучасным этапе, абнавіць уяўленні аб эканамічных формах сацыялізму, з тым каб адкрыць прастор для карэннай перабудовы гаспадарчага механізма», — падкрэсліў М. С. Гарбачоў, выступаючы на чэрвеньскім Пленуме ЦК КПСС.

Асноўнай формай уласнасці ў СССР з'яўляецца дзяржаўная. Да яе адносяцца зямля, яе нетры, вада, лясы, заводы, руднікі і шахты, транспарт, сувязь, банкі, частка сельскагаспадарчых прадпрыемстваў (саўгасы), камунальныя прадпрыемствы і г. д. На долю гэтага віду ўласнасці ў нас у краіне прыходзіцца прыкладна 90 працэнтаў усіх сродкаў вытворчасці.

Другая форма сацыялістычнай уласнасці — уласнасць кааператываў: сельскагаспадарчых (калгасаў), рыбалавецкіх, будаўнічых і іншых. Сацыялістычнай з'яўляецца таксама ўласнасць прафсаюзаў і іншых грамадскіх арганізацый, неабходная ім для выканання задач, вызначаных іх статутам.

Прадметы індывідуальнага ўжывання і карыстання: мэбля, дамы, аўтамабілі, а ў калгасах і асабістая прысядзібная гаспадарка калгаснікаў — адносяцца да асабістай уласнасці грамадзян СССР.

У 30-х гадах савецкія эканамісты сталі не толькі разглядаць дзяржаўную ўласнасць як «найвышэйшую», сапраўды агульнанародную і найбольш прагрэсіўную, але і выступаць за «адзяржаўліванне» іншых форм уласнасці. Лічачы калгасна-кааператыўную ўласнасць «ніжэйшай», эканамісты прыйшлі да вываду, што яна недастаткова абагулена, не ў поўнай меры адпавядае прынцыпам сацыялізму, а таму — непаўнацэнная. Сцвярджалася, што асноўная супярэчнасць, якая стрымлівае развіццё сацыялізму, — гэта супярэчнасць паміж «бачнымі парасткамі камунізму» і «перажыткамі капіталізму». Да перажыткаў памылкова былі аднесены і кааператыўная ўласнасць, і асабістая прысядзібная гаспадарка, і індывідуальная працоўная дзейнасць, і таварна-грашовыя адносіны, рынак, прыбыткі.

Праблема адрознення паміж дзвюма формамі ўласнасці вырашалася, натуральна, на карысць «вышэйшай» — дзяржаўнай. Дагматыкі, па словах сакратара ЦК КПСС А. Якаўлева, літаральна «за вушы цягнулі кааперацыю ў дзяржаву». Прамысловыя кааператывы ліквідаваліся, пераўтвараліся ў дзяржаўныя многія сельскагаспадарчыя кааператывы.

Між тым У. І. Ленін пісаў, што сацыялізм — гэта «лад цывілізаваных кааператараў», гэта кааперацыя «пагалоўна ўсяго насельніцтва». Па думцы дырэктара Інстытута эканомікі АН СССР Л. Абалкіна, памылкі ў ацэнцы ролі і месца форм уласнасці прывялі не толькі да неабгрунтаванага згортвання кааператыўнага і індывідуальнага сектараў савецкай эканомікі, але і да істотнага зніжэння эфектыўнасці выкарыстання і дзяржаўнай формы ўласнасці, да яе маларухомасці, неўспрымальнасці да новаўвядзенняў.

Зараз, многае пераглядаючы і пераадольваючы дагматызм ранейшых падыходаў, вядучыя эканамісты лічаць, што ўсе формы сацыялістычнай уласнасці з'яўляюцца састаўнымі часткамі адзінай агульнанароднай уласнасці. Прапорцыі паміж яе састаўнымі часткамі залежаць ад канкрэтнай эканамічнай рэчаіснасці. Ні адна форма ўласнасці не павінна знікнуць, не вычарпаўшы сваіх магчымасцей у справе замацавання сацыялізму. Калі сямейны падрад здольны забяспечыць двайную або трайную прадукцыйнасць у параўнанні з іншымі формамі арганізацыі працы, то як можна лічыць яго формай, якая гістарычна аджыла? Калі індывідуальная працоўная дзейнасць можа прынесці карысць, то чаму трэба ўзводзіць ідэалагічныя і практычныя перашкоды для яе развіцця? Неабходна строга вытрымліваць толькі адно абмежаванне: не дапускаць эксплуатацыі. «Той-сёй угледзеў у кааперацыі і індывідуальнай працоўнай дзейнасці ледзь не адраджэнне прыватнагаспадарчай практыкі, — сказаў М. С. Гарбачоў, выступаючы на чэрвеньскім Пленуме ЦК КПСС. — Наш уласны вопыт і вопыт іншых сацыялістычных краін гаворыць аб карысці і неабходнасці ўмелага выкарыстання ў рамках сацыялізму такіх эканамічных форм».

Першыя крокі ў рэалізацыі новых падыходаў ужо зроблены. З мая бягучага года уступіў у сілу Закон аб індывідуальна-працоўнай дзейнасці. Сотні новых кааператываў у сферы бытавых паслуг насельніцтву створаны ва ўсіх абласцях нашай краіны, тысячы людзей уступілі ў новыя кааператывы і заняліся індывідуальна-працоўнай дзейнасцю. Істотны ўклад у развіццё дзяржаўнай уласнасці ўнёс Закон аб дзяржаўным прадпрыемстве (аб'яднанні), які быў прыняты Вярхоўным Саветам СССР 29 чэрвеня. Гэты закон стварае ўмовы для дэмакратызацыі, рэзкага павышэння эфектыўнасці вытворчасці ў дзяржаўным сектары эканомікі.

**Юрый РУЖЫН.**
(АДН).

РАСПРАЦОЎКІ БЕЛАРУСКІХ ФІЗІКАЎ

# *ВЯСЁЛКА... У МЕТАЛЕ*

У народнай гаспадарцы рэспублікі шырока прымяняецца атамны спектральны аналіз. Многа цікавых навукова-даследчых распрацовак у гэтай галіне зроблена ў Інстытуце фізікі Акадэміі навук БССР. Яго вучонымі прапанаваны фотаэлектрычныя, атамна-абсарбцыйныя, лазерныя і іншыя новыя метады атамнага спектральнага аналізу.

— Атамны спектральны аналіз, — гаворыць загадчык лабараторыі Інстытута фізікі А. Янкоўскі, — уяўляе фізічны метад вызначэння хімічнага саставу рэчыва, заснаваны на вывучэнні атамных спектраў. Для гэтага даследуемае рэчыва неабходна перавесці ў атамарны стан. Мэта дасягаецца з дапамогай полымя, электрычных разрадаў, уздзеяння лазернага выпраменьвання. З дапамогай спектральных прыбораў выпраменьванне пераведзенага ў атамарны стан рэчыва раскладаецца ў аптычны спектр.

Найпрасцейшым прыкладам раскладання выпраменьвання Сонца ў спектр з'яўляецца ўсім вядомая вясёлка. Бачнае выпраменьванне Сонца — белае святло — уяўляецца пры гэтым у выглядзе паслядоўнага плаўнага пераходу аднаго ў другі чырвонага, аранжавага, жоўтага, зялёнага, блакітнага, сіняга і фіялетавага колераў. Створаныя чалавекам прыборы дазваляюць раскладваць выпраменьванне крыніцы святла ў спектр значна дакладней і адчувальней.

Атамныя спектры — гэта набор спектральных ліній. Кожны хімічны элемент мае свой іх набор. У спектры складанага рэчыва з'яўляюцца спектральныя лініі ўсіх хімічных элементаў, якія ўваходзяць у яго састаў. Гэта дазваляе вызначаць якасны састаў аналізуемага ўзору. Чым больш данага элемента ва ўзоры, тым ярчэй яго спектральныя лініі.

Магчымасці атамнага спектральнага аналізу вялікія. З яго дапамогай можна, напрыклад, вызначыць, з атамаў якіх элементаў складаецца рэчыва. М[illegible] валодае высокай адчувальнасцю, скорасцю і дакладнасцю, а, значыць, эканамічнасцю. Для вызначэння хімічнага саставу самых розных рэчываў прымяняецца аднолькава невялікі набор спектральнай апаратуры. У [illegible]дку ж хімічнага аналізу патрабуецца індывідуальны падыход да вызначэння кожнага хімічнага элемента ў кожным рэчыве.

— Сфера прымянення атамнага спектральнага аналізу таксама шырокая, — падкрэслівае А. Янкоўскі. — Гэты метад сёння эфектыўна выкарыстоўваецца ў астраноміі, фізіцы, хіміі, біялогіі, медыцыне, геалогіі, археалогіі, крыміналістыцы, у сельскай гаспадарцы, на транспарце. Асабліва шырока ён выкарыстоўваецца ў прамысловасці. А ўсяго — прыкладна ў 300 арганізацыях рэспублікі, у тым ліку на 220 заводах, больш чым у 70 інстытутах.

Так, на Мінскім трактарным заводзе паспяхова праводзіцца атамны спектральны аналіз стальнога ліцця з прымяненнем айчыннай фотаэлектрычнай устаноўкі. Усяго некалькі мінут патрабуецца аператару, каб з вялікай дакладнасцю вызначыць састаў і канцэнтрацыю хімічных элементаў ліцця.

Укараненне ў аб'яднанні навінкі дазваляе кантраляваць якасць ліцця, папярэджваць брак у рабоце ліцейшчыкаў, а значыць, паляпшаць якасць і канкурэнтаздольнасць трактароў з мінскай маркай, якія разыходзяцца па ўсяму свету.

Паспяхова прымяняюць атамны спектральны аналіз з выкарыстаннем сучасных фотаэлектрычных прыбораў на Мінскім маторным заводзе для кантролю якасці алюмініевых сплаваў па ходу плаўкі. На Асіповіцкім заводзе аўтамабільных агрэгатаў з яго дапамогай вызначаюць хімічны састаў алюмініевага ліцця. Словам, сёння атамны спектральны аналіз прымяняецца практычна на ўсіх буйных прадпрыемствах рэспублікі і дае выдатныя вынікі.

Шырокае распаўсюджанне знаходзіць атамны спектральны аналіз і ў сельскай гаспадарцы. Ён прымяняецца для аналізу глебы, наяўнасці ў ёй мікраэлементаў — медзі, цынку, кобальту, бору, марганцу, а таксама для аналізу раслін, кармоў, угнаенняў.

Шырока выкарыстоўваецца атамны спектральны аналіз чыгуначнікамі Беларусі. З дапамогай сучасных фотаэлектрычных прыбораў айчыннай вытворчасці імі кантралюецца знос рухавікоў цеплавозаў. Кантроль праводзіцца на падставе спектральнага аналізу змазачных маслаў без разборкі рухавіка. І на гэта ідзе ўсяго некалькі мінут. Раней цеплавозы пасля 100 тысяч кіламетраў прабегу ставілі на прафілактычны агляд. Іх разбіралі, аглядалі. Рамонт расцягваўся на месяцы. Для кантролю рухавікоў самалётаў фотаэлектрычная ўстаноўка падобнага тыпу мантуецца ў аэрапорце «Мінск-2».

Скарыстоўваецца атамны спектральны аналіз у геалагічных даследаваннях. З дапамогай прыбораў можна вызначыць хімічны састаў розных мінералаў. Гэта важна пры пошуку карысных выкапняў.

У нашай рэспубліцы працуюць шэсць абласных станцый, якія выконваюць розныя аналізы з прымяненнем атамна-абсарбцыйных прыбораў для кантролю за забруджваннем навакольнага асяроддзя. Яны пастаянна праводзяць аналізы паветра, вады, раслін з мэтай вызначэння ў іх розных мікраэлементаў. Акрамя гэтых станцый, функцыяніруе яшчэ шэраг установ, якія ажыццяўляюць кантроль за забруджваннем навакольнага асяроддзя. Гэта Беларускі санітарна-гігіенічны інстытут, спецыяльная лабараторыя Міністэрства аховы здароўя БССР, а таксама метэаралагічныя арганізацыі. На іх узбраенні самыя сучасныя прыборы айчыннай вытворчасці, заснаваныя на атамным спектральным аналізе.

**Казімір КАНУС.**



# КАЛГАСНЫ ЦЭХ «ЭЛЕКТРОНІКІ»

**Да нядаўняга часу праўленне калгаса «Свіцязь» Навагрудскага раёна хвалявала адна вельмі няпростая жыццёвая праблема: не маглі маладыя механізатары, будаўнікі, паляводы знайсці ў тутэйшых мясцінах нявест. Выязджалі сельскія прыгажуні ў горад. З-за таго, галоўным чынам, што не ўсім знаходзілася дома работа на круглы год.**

**І тады ў гаспадарцы прынялі такое рашэнне. Па дамоўленасці з заводам «Электроніка» мінскага вытворчага аб'яднання «Інтэграл» у вёсцы Валеўка — цэнтральнай сядзібе калгаса — адкрылі цэх па зборцы электронных блокаў гадзіннікаў. Працуе цяпер тут сорак чалавек, у асноўным, дзяўчаты. З уводам у строй другой чаргі колькасць працуючых падвоіцца. Ужо зараз адток моладзі з родных мясцін прыкметна скараціўся.**

**Арганізацыя прамысловай вытворчасці аказалася і эканамічна выгаднай справай. Падлічана, што толькі калгасу цэх прынясе сёлета прыкладна 300 тысяч рублёў чыстага прыбытку.**

**НА ЗДЫМКАХ: маладыя працаўнікі калгаснага цэха; дасканала асвоіла прафесію мантажніцы Алена КАЛЯДА.**

**Фота Э. КАБЯКА.**



## *ГРУПЫ ФРК І РЫМАСа Ў МІНСКУ*

# ТОЛЬКІ АДНО ЗАСТАЕЦЦА НЯЗМЕННЫМ

Калі міма нашай групы час ад часу праходзілі людзі, амаль кожны міжволі замаруджваў крок і са здзіўленнем прыслухоўваўся. Ніхто не мог зразумець, на якой жа мове ішла гутарка. Беларускія, рускія і англійскія фразы змянялі адна адну, але ніхто іх не перакладаў, і прысутныя цудоўна разумелі адзін аднаго. Справа ў тым, што ўсе гэтыя тры мовы для маіх субяседнікаў былі роднымі. Нарадзіліся і выраслі яны ў англамоўных краінах, але ў сем'ях эмігрантаў — выхадцаў з Расіі і Беларусі. Здарылася так, што дэлегацыі Федэрацыі рускіх канадцаў і прагрэсіўнай арганізацыі суайчыннікаў горада Чыкага РЫМАС (Рускага незалежнага таварыства ўзаемадапамогі), што прыехалі ў Мінск па запрашэнню Беларускага таварыства «Радзіма», аказаліся тут адначасова. За некалькі дзён, праведзеных разам, яны паспелі добра пазнаёміцца і цяпер, перад расставаннем, дзяліліся сваімі ўражаннямі і планамі работы на будучыню.

— Мы, можна сказаць, з вамі землякі ўдвая,— сказаў, звяртаючыся да членаў дэлегацыі ФРК старшыня РЫМАСа Пётр Харыс. — Усе нарадзіліся ў Паўночнай Амерыцы, але кожнага з нас звязваюць з беларускай зямлёй нябачныя ніці памяці аб нашых бацьках. Мы з маёй жонкай Соняй ужо не ўпершыню прыязджаем у Савецкі Саюз, і цяпер гэтая краіна стала нам як родная. У нашай арганізацыі даўнія і трывалыя сувязі з Беларускім таварыствам «Радзіма». Яно часта аказвае нам дапамогу ў розных пытаннях. А вось цяпер, дзякуючы яму, мы пазнаёміліся і з прадстаўнікамі блізкай нам па духу арганізацыі ў суседняй Канадзе.

— Я думаю, што ўсе мы павінны быць удзячны нашым беларускім сябрам за гэтую сустрэчу, — адказаў актывіст ФРК з горада Ванкувера Іван Няхода. — Цяпер нашы арганізацыі будуць мець магчымасць наладзіць больш цесныя сувязі адна з адной, абменьвацца вопытам, магчыма, і дэлегацыямі — словам, зрабіць і нашу, і вашу работу больш актыўнай. Шкада, што даводзіцца так хутка расставацца.

Астатнія члены групы ўважліва слухалі размову і час ад часу моўчкі ківалі галовамі, выказваючы сваю згоду з гэтымі думкамі. З большасцю членаў групы мы ўжо былі знаёмыя, не раз сустракаліся ў папярэднія гады. І прызнаюся, што з першага знаёмства зведваю здзіўленне і пачуццё цёплай удзячнасці да гэтых людзей, а асабліва да іх бацькоў. За тысячы кіламетраў ад Беларусі, у зусім чужым акружэнні, яны змаглі не толькі навучыць сваіх дзяцей роднай мове, але і на ўсё жыццё заклалі ў іх сэрцы любоў да нашай зямлі, пачуццё адзінства з нашым народам, прыналежнасці да яго. Гэта тым больш дзіўна, што і самі яны аказаліся на чужыне яшчэ ў дзіцячым узросце.

Успомніліся нашы першыя знаёмствы. Ларыса Святошчык з канадскага горада Віндзара ўпершыню прыехала ў Мінск амаль дзесяць год назад. Прыехала, каб займацца на курсах для кіраўнікоў мастацкай самадзейнасці калектываў суайчыннікаў. Тады я не сумняваўся, што яна нарадзілася недзе ў беларускай вёсцы. Але пацікавіўшыся, дзе менавіта і калі пакінула Беларусь, быў здзіўлены: нарадзілася яна ў фермерскай сям'і ў Канадзе, а да нас прыехала ўпершыню.

— І мова, і любоў да вашых песень — усё гэта ад мамы, — растлумачыла Ларыса. — Яна была родам з Палесся і ўвесь час спявала гэтыя песні. Навучыла і мяне.

Пазней любоў да песні зрабіла Ларысу Святошчык кіраўніком хору ФРК у горадзе Віндзары. І вось ужо больш чвэрці стагоддзя збіраюцца суайчыннікі разам, спяваюць беларускія, рускія, украінскія песні. Хор для іх — частка далёкай Радзімы.

У той жа год пазнаёміліся мы і з цяперашнім сакратаром РЫМАСа Джонам Лоўдам і яго жонкай Марыяй. Тады ён прызнаўся, што прыехаў у Беларусь адным чалавекам, а пакідае яе зусім іншым.

— Я сумняваўся, ці варта ехаць сюды,— гаварыў Джон Лоўда.— Што па сутнасці звязвае мяне з гэтай зямлёй? Калі маці павезлі ў Амерыку, ёй было ўсяго дзесяць год. Так, яна многа азвала мне ў дзяцінстве п, сваю Радзіму. Так, я ведаў, што ў вёсцы непадалёку ад Мастоў у мяне ёсць дзядзька і іншыя сваякі. Але ці патрэбен я ім? Можа яны і ўвогуле мяне за свайго не захочуць прызнаваць? Ну а цяпер , што памыляўся, і вельм. кадую, што быў тут так нядоўга. І ў вёсцы мяне прынялі як роднага, і ў іншых месцах, дзе пабываў, не адчуваў сябе чужым. Усё тут мне знаёмае і блізкае. Усё менавіта так, як расказвала маці. Цяпер я адчуваю, што гэта і мая зямля.

З таго часу муж і жонка Лоўды ўжо не раз наведвалі Беларусь. Але сёлетні прыезд для іх асаблівы. Цяжка паверыць, што бываюць такія супадзенні. Аказваецца, калі Джон і Марыя збіраліся пажаніцца, яе бацька быў супраць гэтага. «Дрэнная прыкмета, калі жэняцца людзі, якія нарадзіліся ў адзін дзень. Не будзе ў сям'і шчасця»,— гаварыў ён. Але маладыя зрабілі па-свойму. Пражылі шчасліва трыццаць год. І спецыяльна прыехалі ў Беларусь цяпер, каб адзначыць свой дзень нараджэння менавіта тут, сярод родных, сустрэчы з якімі так баяўся Джон перад першым сваім прыездам.

Але мне, вядома, было цікава пачуць уражанні гасцей і аб цяперашнім прыездзе.

— Уражанняў многа, — адразу ж адказаў Джон Лоўда. — Па-першае, нам было вельмі радасна яшчэ раз пабываць у тых мясцінах, якія мы ўжо некалі наведвалі. Адчуваеш вялікую радасць, калі бачыш вуліцы ці вёскі, якія ўжо раней палюбіліся. Ну і вядома, заўсёды цікава сустрэцца з нечым новым. А новага ў вас шмат. Горад пастаянна расце, з'яўляюцца новыя вуліцы, магазіны, кінатэатры, помнікі, скверы. Моцна мяняецца і вёска. І там ужо многія жывуць з гарадскім камфортам. Словам, усё мяняецца да лепшага. Бадай, не мяняюцца толькі людзі. Яны па-ранейшаму ўсё такія ж добрыя і гасцінныя.

— Вось з апошняй заўвагай я згадзіцца ніяк не магу,— усміхаючыся, гаворыць Іван Няхода.— Па-мойму, самае галоўнае менавіта ў тым, што змяніліся людзі. Так, яны па-ранейшаму добрыя і гасцінныя. Але вельмі прыкметна, што адносіны да жыцця ў іх становяцца іншымі. Што ў вашай краіне адбываюцца вялікія змяненні, я даведаўся яшчэ дома. Дарэчы сказаць, словы «гласность» і «перестройка» паспелі ўжо без усялякіх змяненняў увайсці і ў англійскі лексікон. І мне вельмі хацелася самому ўбачыць, што гэта такое. Прызнаюся, што нейкіх яўных знешніх змяненняў пакуль яшчэ нямнога. Праўда, нельга чакаць, каб яны адбываліся так хутка. Ды і хіба шмат убачыш за некалькі дзён? Але вось калі я размаўляў з людзьмі, а гаварыў я з многімі, то гэтыя змяненні адчуў адразу. Людзі вітаюць новую палітыку, зацікаўлены ў ёй. А самае галоўнае, яны ўжо не застаюцца староннімі назіральнікамі і проста выканаўцамі распараджэнняў, але хочуць і самі ўдзельнічаць у вырашэнні розных пытанняў у жыцці краіны, у вельмі многіх ёсць дзелавыя, карысныя прапановы, і людзі настроены дабіцца таго, каб яны былі рэалізаваны. Упэўнены, што такі настрой народа зельмі хутка абернецца рэальнымі вынікамі. Савецкая краіна па праву ганарыцца сваімі поспехамі, але цяпер яны будуць яшчэ большымі. Гэта і палохае вашых ідэйных праціўнікаў. Яны зноў на розныя лады прадказваюць няўдачу Савецкаму Саюзу, зноў спрабуюць крытыкаваць розныя бакі вашага жыцця. Але і тут «перестройка» і «гласность» выбіваюць у іх з-пад ног глебу. Я атрымліваю многа савецкіх газет, і мне нават цяжка яшчэ прывыкнуць да таго, што гэта тыя ж самыя газеты, што і некалькі год назад. Настолькі адкрыта пішацца аб усіх праблемах, якія стаяць перад грамадствам, не ўтойваюцца ніякія недахопы. Баюся, што калі так пойдзе далей, то рэдакцыям антысавецкіх газет і радыёстанцый прыйдзецца звольніць большасць сваіх супрацоўнікаў.

Гэты жарт выклікаў дружны смех усіх членаў групы.

— Нам, канешне, усім цікава ведаць, што адбываецца ў СССР, — уступіў у размову Пётр Харыс.— І мы ад усёй душы хочам павіншаваць вашу краіну з тым вялікім юбілеем, да якога і мы рыхтуемся разам з вамі, і пажадаць вам вялікіх поспехаў. Але перамены, іх ажыццяўленне — гэта ваша ўнутраная справа. А вось знешняя палітыка Савецкага Саюза тычыцца ўсіх людзей на Зямлі. Нас радуе, што на працягу ўсіх 70-ці год існавання Савецкай дзяржавы яна застаецца нязменнай і заўсёды накіравана на забеспячэнне міру. Прыемна, што гэтая палітыка ў апошнія гады прыносіць адчувальныя вынікі. І мне вельмі хочацца спадзявацца, што і кіраўнікі іншых краін у бліжэйшы час засвояць: без «новага мыслення» ў ядзерны век, у сучасных умовах, чалавецтва проста не можа існаваць.

Нам шкада расставацца адзін з адным, з вашай цудоўнай краінай. Але я ўпэўнены, што калі на планеце будзе мір, мы зможам сустрэцца яшчэ не раз.

**Рыгор ФАМЕНКА.**



**У цэнтры горада Салігорска вырас арыгінальны 18-павярховы адміністрацыйны будынак вытворчага аб'яднання «Беларускалій». На 13 тысячах квадратных метраў карыснай плошчы размесціцца асноўныя службы кіравання вытворчасцю, інфармацыйна-вылічальны цэнтр, тэхнічныя лабараторыі.**
**НА ЗДЫМКУ: адміністрацыйны корпус вытворчага аб'яднання «Беларускалій» у Салігорску.**

**Фота У. АЛЯШКЕВІЧА.**

## Што? Як? Чаму?

**У адным будынку з рэдакцыяй «Голасу Радзімы» на Ленінскім праспекце сталіцы нашай рэспублікі знаходзіцца Праўленне таварыства «Веды» Беларускай ССР. Замежныя суайчыннікі, прыязджаючы на Бацькаўшчыну і наведваючы рэдакцыю, не раз цікавіліся гэтай арганізацыяй. Вось чаму мы рашылі расказаць усім чытачам газеты пра дзейнасць**

# ТАВАРЫСТВА «ВЕДЫ»

У канцы мая бягучага года ў Маскве праходзіў IX з'езд Усесаюзнага таварыства «Веды». Час правядзення з'езда супаў 40-годдзем заснавання арганізацыі. З невялікай групы ных-энтузіястаў янаператварылася ў масавую добраахвотную грамадскую арганізацыю савецкай інтэлігенцыі, якая займаецца прапагандай палітычных і навуковых ведаў сярод насельніцтва краіны.

Зараз у радах Таварыства налічваецца звыш 2,5 мільёна чалавек, якія аб'яднаны ў рэспубліканскія, абласныя, гарадскія, раённыя і шматлікія пярвічныя (на фабрыках, заводах, у калгас саўгасах, вышэйшых навучальных установах і г. д.) арган ıі. Лепшыя навуковыя сілы краіны ўваходзяць у яго саст, . акадэмікі АН СССР, лаўрэаты Ленінскай і Дзяржаўнай прэмій СССР, аўтары сусветнавядомых адкрыццяў і вынаходстваў — медыкі, біёлагі, фізікі, матэматыкі, грамадазнаўцы, эканамісты... Дастаткова сказаць, што кожны семнаццаты член Таварыства мае навуковую ступень або званне. Уваходзяць у састаў Таварыства і калектыўныя члены. Напрыклад, творчыя саюзы: Саюз пісьменнікаў СССР, Саюз кампазітараў СССР, Саюз мастакоў СССР і іншыя.

90 тысяч чалавек утвараюць арганізацыю нашай рэспублікі, якую ўзначальвае Праўленне таварыства «Веды» Беларускай ССР на чале са старшынёй—міністрам вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі БССР М. Мяшковым. Шмат знакамітых людзей знаходзіцца ў яе радах. Пра многіх з іх расказвалася і на старонках «Голасу Радзімы». Нашым чытачам, напрыклад, добра вядомы імёны такіх выдатных прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі, як кампазітар І. Лучанок і паэт Н. Гілевіч, матэматык М. Ярыгін і фізік Ф. Фёдараў...

За гады свайго існавання таварыства «Веды» атрымала ў краіне прызнанне і павагу. Вялізны яго ўклад у навукова-тэхнічны і сацыяльны прагрэс нашай дзяржавы, у фарміраванне палітычнага адзінства савецкіх людзей. Членаў гэтага грамадскага фарміравання звычайна называюць лектарамі, бо галоўная форма распаўсюджання імі ведаў сярод насельніцтва — лекцыя. Жывое ж слова лектара нават у цяперашні век бурнага развіцця сродкаў масавай інфармацыі і прапаганды не губляе свайго выхаваўчага і асветніцкага значэння.

Нягледзячы на відавочныя поспехі, Таварыства на IX з'ездзе вызначыла шляхі перабудовы сваёй дзейнасці. Гэта выклікана праграмай паскарэння сацыяльна-эканамічнага развіцця СССР, у якой вялікая роля адведзена больш поўнаму выкарыстанню навуковага патэнцыялу кожнага члена Таварыства. Зараз у нашай краіне ствараецца дзяржаўная сістэма бесперапыннай адукацыі, сутнасць якой у пастаянным падтрыманні на высокім узроўні кампетэнтнасці савецкіх людзей ва ўсіх сферах жыцця, асабліва ў новых і найноўшых галінах тэхнікі і тэхналогіі. Нароўні ці, калі дзяржава ставіць задачу быць у авангардзе навукова-тэхнічнага прагрэсу, трэба сумнявацца ў мэтазгоднасці такой сістэмы. Вось з чаго вынікае важнасць актывізацыі дзейнасці таварыства «Веды», тым больш, што яно назапасіла ўжо значны вопыт масавай асветніцкай работы, унесла прыкметны ўклад у стварэнне многіх элементаў бесперапыннай адукацыі.

У дзейнасці таварыства «Веды» важнае месца займае выданне ім кніг, брашур, часопісаў. Мільёны савецкіх людзей штогод выпісваюць і чытаюць такія часопісы, як «Наука и жизнь», «Наука и религия», «Международная жизнь», бюлетэнь «Аргументы и факты». Выдавецтва «Веды» — адно з буйнейшых у свеце і прызнаны ў краіне лідэр у галіне навуковапапулярнай літаратуры, разлічанай на самыя шырокія колы насельніцтва: штогод выдаецца амаль 700 назваў кніг і брашур агульным тыражом каля 60 мільёнаў экземпляраў.

Шырокія міжнародныя сувязі Таварыства. Летась, напрыклад, было арганізавана ім 1 067 лекцый для замежных турыстаў, на якіх прысутнічала звыш 50 тысяч чалавек з 32 краін свету. У сваю чаргу, каля 500 лекцый прачыталі ў Савецкім Саюзе замежныя вучоныя. У 1980 годзе Усесаюзнае таварыства «Веды» ўступіла ў міжнародны савет па адукацыі дарослых (МСАД), які праводзіць актыўную дзейнасць пад эгідай ЮНЕСКА.

*СОТРУДНИЧАТЬ ВО ИМЯ НРАВСТВЕННОСТИ И ГУМАНИЗМА*

# ПРОБЛЕМЫ ДЕМОКРАТИИ: ДВА ПОДХОДА

В сегодняшнем мире много говорят о демократии, свободе, правах человека, говорят на разных уровнях и далеко не однозначно. В одних странах ищут новые подходы к решению сложных проблем осуществления власти, реализации демократических принципов. В других — никак не могут отказаться от старой песни об отсутствии демократии в социалистических странах. Образцом старого мышления стало, например, утверждение Рональда Рейгана в Лос-Анджелесе 26 августа 1987 года: «Хотя мы признаем интересные перемены в Советском Союзе, мы в то же время знаем, что Советы до сих пор еще очень далеки от любых западных стандартов демократии».

Между тем «Советы» никогда и не скрывали, что имеют свои воззрения на демократию, свое понимание прав и свобод человека, свой образ жизни, свои представления о социальной справедливости.

Проблема прав человека — одна из важнейших в современной жизни. Наличие принципиально разных концепций и подходов к ней — социалистического и буржуазного — давно поставило ее в центр идеологической борьбы двух противоположных систем. При этом западный мир считает именно своей заслугой разработку международных норм и стандартов в этой области. Между тем, признавая важность гражданских и политических прав, Генеральная Ассамблея ООН в одной из своих резолюций исходит из того, что человек, лишенный прав экономических, социальных и прав в области культуры, не является более той личностью, которую Всеобщая декларация прав человека (1948 год) рассматривает в качестве идеала свободного индивидуума. Таким образом, социально-экономические и культурные права, юридическую природу которых капитализм не признавал, стали реальностью, и с ней пришлось считаться. В этом заслуга мира социализма.

Из сказанного становится понятным, почему в советском обществе, не забывая о политических и гражданских правах, придают столь большое значение гарантиям социально-экономических прав людей — на труд и отдых, на социальное обеспечение, жилище и охрану здоровья. Только обладая всем этим, человек может реально пользоваться своими политическими правами.

Советский человек знает, что он не окажется, как многие миллионы людей на Западе, в рядах армии безработных. Государство обеспечивает занятость путем создания эффективной системы подготовки, переквалификации, трудоустройства кадров. В СССР нет безработицы с конца 1930 года. Что же касается США, то только за годы правления нынешней администрации в рядах безработных в этой стране побывало около 30 миллионов человек. Причем наибольшие тяготы испытывают женщины, пожилые люди, молодежь, негритянское население и представители национальных меньшинств.

В СССР многое делается для решения жилищной проблемы. А проблема эта насущная — у нас не все еще живут в отдельной квартире, велики очереди на получение жилой площади, строящейся преимущественно за счет государственных средств. Поэтому правящая партия коммунистов на своем XXVII съезде поставила задачу: обеспечить к 2000 году каждую семью отдельной квартирой или домом. За нынешнее пятилетие (1986—1990) получат квартиры — за счет государственного, кооперативного и индивидуального строительства жилья — более 15 миллионов семей. Советский человек уверен, что не будет выброшен на улицу. То жилье, которое у него есть, не будет отнято, и он не окажется в ночлежном доме. Наверное, потому и домов таких нет в стране. В то же время в США, по данным организации «Общественность за созидательное ненасилие», насчитывается три с лишним миллиона бездомных.

Советский человек убежден, что, заболев, он пол[illegible] бесплатную медицинскую помощь, [illegible]о его также бесплатно будут содержать в больнице столько, сколько потребует состояние его здоровья, что ему будет сделана любая необходимая операция. Вместе с тем мы видим существенные недостатки, серьезные нерешенные пока проблемы, имеющиеся в со[illegible]ком здравоохранении. Скажем, нет с[illegible]ета в том, что качественный уровень медицинской помощи населению во многом не отвечает современным требованиям, что не хватает мест в больницах и т. д. Ликвидировать эти недостатки призваны меры, предусмотренные Основными направлениями развития охраны здоровья населения и перестройки здравоохранения СССР до 2000 года. Проект этого документа обсуждается в настоящее время на страницах газет, по радио и телевидению, на собраниях и сельских сходах, конференциях и научных форумах — практически всем народом.

Такие обсуждения регулярно проводятся в СССР по крупным вопросам государственной и общественной жизни. Они как бы олицетворяют еще один водораздел между капитализмом и социализмом в понимании сущности демократии и форм ее осуществления.

Кстати, минувшим летом на сессии Верховного Совета СССР были законодательно закреплены гражданские права на участие в обсуждении важных вопросов государственной жизни, а также на обжалование в суд неправомерных действий должностных лиц, ущемляющих права граждан. Тем самым расширяется причастность советских людей к управлению делами страны. Разработанный механизм рассмотрения предложений и замечаний граждан позволяет максимально учесть общественное мнение, сделать его определяющим при подготовке важных государственных решений. А Закон о порядке обжалования неправомерных действий должностных лиц создает гарантии для защиты посредством обращения в суд прав гражданина от произвола некоторых руководителей, злоупотребляющих своими полномочиями

Нарушения законов в СССР имеют место, но они не могут идти в сравнение с масштабами беззакония [illegible] преступности, которые характерны [illegible]ряда стран капитализма. Только в С[illegible] ежегодно регистрируется до 13 миллионов преступлений. А сколько неучтенных? По данным западногерманского еженедельника «Штерн», в течение года из пистолета в Швейцарии убивают 24 человека, в Японии — 77, в США — 11 522...

Так что за красивыми с[illegible]ми о «западных стандартах демокр[illegible]и» стоит более чем некрасивая реальность. Наконец, надо ли удивляться, что до сих пор США не ратифицировали международные пакты ООН (1966 год) об экономических, социальных и культурных правах, о гражданских и политических правах.

Впрочем, когда мы говорим о двух разных подходах к демократии, к правам человека, то вовсе не считаем правильным, чтобы эти подходы были конфронтационными. Мы исходим из того, что каждая из двух мировых систем имеет свои проблемы и что идеологические расхождения не должны переноситься на межгосударственные отношения, подрывать их стабильность и препятствовать выработке взаимоприемлемых соглашений.

В настоящее время одним из направлений мировой политики является гуманитарное сотрудничество. СССР выступает за его расширение при условии уважения законов всех членов международного сообщества и невмешательства в их внутренние дела. Решение глобальных мировых проблем зависит от обоюдных усилий как капиталистических, так и социалистических стран.

Глубоким гуманизмом и высокой нравственностью пронизано предложение доктора Бернарда Лауна (США), внесенное им на московском форуме «Врачи мира за предотвращение ядерной войны», о том, чтобы ввести на околоземную орбиту советско-американский медицинский спутник с целью оказания с орбиты помощи врачам и их пациентам повсюду в мире.

Пока это предложение будет обсуждаться, летающая клиника «Орбис» со сменным «экипажем» из ведущих офтальмологов США, Бельгии, Голландии, Франции, Великобритании, Японии и других стран побывала в Москве и приняла участие в международном научно-практическом семинаре на базе межотраслевого научно-технического комплекса «Микрохирургия глаза». «Летающие клиники с лучшими врачами мира,—подчеркнул крупнейший советский офтальмолог профессор Святослав Федоров,—смогут оказывать помощь сотням больных на всех континентах, распространять передовые приемы и методы лечения. «Орбис» стал первой ласточкой такой глобальной программы».

Так, рука об руку сотрудничают сегодня передовые умы человечества во имя демократии, нравственности и гуманизма, во имя избавления людей от страданий и болезней. Фронт такого сотрудничества в разных, в том числе гуманитарных, областях должен расширяться.

**Евгений КОВЕШНИКОВ,**
**кандидат юридических наук.**








**Совсем недавно в Минске по улице Славинского открылся Дом технического творчества. Строить его помогали учащиеся профессионально - технических училищ города, и теперь они самые активные его посетители. Занимаются здесь также ребята минских школ. В Доме технического творчества можно научиться хорошо фотографировать, водить машину, своими руками собрать самолет и подняться на нем в небо. Занимаются здесь не только техникой. Мальчиков и девочек учат рисовать, шить, делать макраме, изготавливать гончарные изделия. Все желающие могут получить консультацию по прикладным и декоративным направлениям.**

**НА СНИМКАХ: Дом технического творчества в Минске; юные картингисты; девятиклассники 137-й школы Алексей ПЛЮЩЕВ и Александр КЛЮЧНИК на занятиях в кружке вычислительной техники; секция мотоспорта.**

**Фото С. КРИЦКОГО.**

*РОДНАЕ-БЛІЗКАЕ*

# ЗЯЛЁНКІ

На двары кастрычнік. Месяц лісцевых завей, нудных, дробных, нібы туман, дажджоў. Ён крануў жоўтай фарбай доўгія косы бяроз, дабавіў чырвані ў лістоту клёнаў, асін, сінечы ў ваду азёр, ручаін, рэк. Калі ж у рэдкія пагодлівыя гадзіны вецер разгоніць цяжкія хмары, а сонца высветліць усе колеры восені, неба здаецца нязвыкла высокім, бяздонна сінім. Тады ў непарушнай роўнядзі вадаёмаў, нібы ў гіганцкім люстэрку, адбіваюцца зусім бязважкія белыя аблачынкі, што спяшаюцца некуды ў далячынь. Здаецца, што яны імкнуцца збегчы ад няўмольнай зімы. Вось у такія дні часцей за ўсё ў нябеснай бездані праплываюць апошнія касякі гусей, жураваў, таропкімі чародкамі спяшаюцца ў вырай шпакі, качкі, іншыя пералётныя птушкі. Трывожнымі, тужлівымі крыкамі развітваюцца яны з радзімай, абяцаюць вярнуцца назад з першым цяплом вясны.

... Не сядзіцца вяскоўцам у такую пару дома. Работы па гаспадарцы мала, ураджай з палёў да гэтага часу звычайна ўжо сабраны. Вось і спяшаюцца яны ў лес, дзе ў кастрычніку, нібы пчаліны рой, па маладняках высыпалі познія асеннія грыбы зялёнкі і падзялёнкі. Доўга чакалі гэтыя грыбы сваёй чаргі і вось толькі позняй восенню паказалі з-пад імху, тоўстага слою ігліцы свае шапачкі. Можа таму яны і маюць такі прыгожы выгляд, што доўга чакалі, прыхарошваліся, нібы прыгажуні перад гулянием.

Сёння нядзеля. Дзень вольны, выхадны. Таму з самага ранку, калі толькі-толькі пачне святлець неба, вяскоўцам ужо не спіцца. То там, то тут ляпаюць дзверы. Гаспадары рыхтуюцца да паходу ў лес.

— Сцяпан!— чуваць на суседнім двары.— Добрай раніцы. Ты за зялёнкамі сёння пойдзеш?

— Вядома ж!—гучыць у адказ голас Сцяпана. — Ды і не адзін. З горада дачка з зяцем прыехалі. Разам на матацыкле махнём.

— А я ўчора за Асмоляй у маладняках была, — гэта ўжо дыялог на другім двары. — Зялёнак ды падзялёнак там — касой касі! Толькі вось чарвівых шмат.

— І не дзіўна, — адказвае другая, па голасу чуваць, сталая жанчына. — Макратэча такая. Дажджы льюць бясконца. А я вось сёння за Завышша з унукам падамся. Там таксама іх хапае.

У кожнага свае любімыя мясціны, дзе грыбоў, па іх развaжаннях, найбольш. І вось хто пешшу, хто на матацыклах, на аўтамашынах, веласіпедах, спяшаюцца вяскоўцы ў лес, на «свае» палянкі ці ў маладнячкі. Тут важна не праспаць, першым на золку туды трапіць. Інакш больш кемлівыя пройдуць ужо, пазбіраюць лепшыя, прыгажэйшыя зялёнкі. Але і то не бяда. Іх тут яшчэ шмат. Толькі засталіся тыя, якія ўмела замаскіраваліся. Каб убачыць іх шапачкі, што ледзь відаць з-пад імху, трэба добра прыглядацца. А гэта ўжо марудней.

— Го-о-о-о! — то там, то тут чуваць па маладняках. Гэта сямейныя або сяброўскія «экіпажы» пераклікаюцца. У такіх лясах, ды яшчэ на золку, лёгка і разысціся. Вось і гукаюць яны. Разам весялей. Асабліва любяць паслухаць, як носіцца па барах ды гушчарах, адбіваючыся ад дрэў, няўлоўнае рэха.

Хоць у кожнага свае любімыя ўрочышчы, але дадому звычайна ўсе ідуць з поўнымі пад самыя дужкі кашамі.

— От, Верачка, і цяжкі ж гэты кош, — скардзіцца сяброўка сяброўцы. — Здаецца, у лесе, калі збіраеш, і вагі не адчуваеш. Усё больш нарэзаць хочацца, а зараз — хоць ты адсыпай.

— Вось дзякуй, сынок, — з палёгкай уздыхаюць, калі хто маладзейшы нагоніць з веласіпедам і забярэ кашы падвезці дадому.

— А я сёння два баравічкі знайшла! — хваліцца сваім равесніцам суседка-першакласніца. — Такія прыгожанькія. Проста як на малюнку.

Знаходка ў гэты час сапраўды рэдкая. Не любяць баравікі доўгіх халодных кастрычніцкіх начей, імглістага мокрага надвор'я. Калі нават і паяўляюцца на свет, то толькі ў самых лепшых мясцінах. Але затое моцныя, з адмысловымі ножкамі ды шапачкамі.

А, бывае, так захопішся, вышукваючы прыгажуні зялёнкі, што нават скаланешся, калі перад табой, нібы з-пад зямлі, вырасце другі грыбнік або заспрачаюцца на суседняй сасне, не падзяліўшы арэх ці жолуд, усюдыісныя сойкі. Калі ж хадзіць ціха і разважліва, можна зусім блізка падысці да вавёрачак, што гуляюць па маладняках, ці да казулі, якая ўлеглася на пагорачку перадняваць, убачыць шмат цікавага з жыцця лясных жыхароў.

... А пад вечар па вёсцы натужліва скрыпяць журавы калодзежаў. На плітках або ў печках грэецца вада для марынавання зялёнак. А чысцяць іх звычайна ўсёй сям'ёй, цесным кругам пасеўшы вакол кашоў. Жарты, смех. Весела!

Так звычайна працягваецца да той пары, пакуль начныя замаразкі не прыхопяць зямлю і грыбы паступова знікнуць. Затое на паліцах склепаў і кладовак пацеюць цэлыя батарэі з марынаванымі дарамі лесу, прыгатаванымі кожнай гаспадыняй па асабістаму рэцэпту.

**Васіль ЖУШМА.**

## СПОРТ

Мы ўжо расказвалі аб пачатку матча за шахматную карону паміж выдатнымі савецкімі гросмайстрамі Гары Каспаравым і Анатолем Карпавым. Лік перамогам адкрыў эксчэмпіён свету. Потым Гары Каспараў у чацвёртай партыі нанёс «укол» у адказ. Пасля пятай партыі лік матча 3:2 на карысць Карпава.

З перавагай савецкіх гімнастаў прайшоў чэмпіянат свету па спартыўнай гімнастыцы ў Галандыі. Наша мужчынская зборная намнога апярэдзіла спартсменаў КНР і ГДР. Другое месца дасталася жаночай камандзе СССР. Тут адзначым упэўненае выступленне беларускай гімнасткі Святланы Баітавай.

Вялікую цікавасць, вядома, выклікалі ў аматараў спорту чарговыя гульні па футболу за еўрапейскія Кубкі. Неміласэрным аказалася жэрабя да савецкіх каманд. Усім ім дасталіся грозныя сапернікі. І тым не менш, экзамен нашы спартсмены вытрымалі нядрэнна.

Так, тбіліскія дынамаўцы ў гасцях на Кубак УЕФА перамаглі румынскую каманду «Вікторыя» з лікам 2:1. Але найбольшая колькасць водгукаў адрасавана мінскім дынамаўцам. Чакалася, што беларускія спартсмены ў матчы на Кубак уладальнікаў кубкаў павінны былі ўступіць у Іспаніі мясцоваму «Рэалу» — камандзе, вядомай у Еўропе. Мінчане ж не толькі не прайгралі, але і былі блізкія да перамогі (гол забіў Георгій Кандрацьеў). І толькі за дзве хвіліны да канца гульні гаспадары змаглі звесці матч унічыю — 1:1.

Іспанскія газеты «Марка», «Йа», «Ас» і іншыя не шкадуюць пахвальных слоў у адрас беларускіх футбалістаў, адзначаючы, што яны здзівілі гледачоў і спецыялістаў высокімі хуткасцямі, выбуховымі контратакамі і высокаарганізаванымі калектыўнымі дзеяннямі.

Матчы ў адказ пройдуць праз два тыдні.







**Многія архітэктурныя ансамблі Гродна апавядаюць пра далёкую гісторыю Прынёманскага краю, пра культуру нашых продкаў. Больш за сорак помнікаў XII—XIX стагоддзяў захавалася ў горадзе да сённяшніх дзён.**

**Цяпер сумесна з мінскімі калегамі калектыў комплекснай абласной навукова-даследчай праектнай майстэрні вытворчага аб'яднання «Белрэстаўрацыя» распрацоўвае дакументацыю на аднаўленне шэрагу унікальных помнікаў. На іх тэрыторыі ўжо вядуцца археалагічныя раскопкі.**

**НА ЗДЫМКАХ: агляд руін сцен старога замка ў Гродне. На пярэднім плане — кіраўнік комплекснай абласной навукова-даследчай праектнай майстэрні вытворчага аб'яднання «Белрэстаўрацыя» Валерый КРАЎЧАНКА; былы Базіліянскі манастыр — помнік архітэктуры, які ахоўваецца дзяржавай; знаходкі археолагаў у Гродне.**

**Фота Л. КЛІМАНСКАГА.**

## *ПЕРАЕХАЎ МУЗЕЙ НА ЗАВОД*

Не ў цішыню выставачных залаў, а ў цэхі і Дом культуры вытворчага аб'яднання «Гарызонт» запрасіў наведвальнікаў Дзяржаўны музей БССР — частка яго фондаў перавезена на завод. На працягу тыдня працаўнікоў аднаго з буйнейшых у горадзе прадпрыемстваў у час абедзенных перапынкаў і пасля змены чакалі сустрэчы з унікальнымі экспанатамі, лекцыі, тэматычныя вечары, кіна- і слайдфільмы, якія расказалі пра перамогу Кастрычніка ў Беларусі, пра У. І. Леніна і яго саратнікаў, пра герояў-землякоў — удзельнікаў грамадзянскай вайны і ўсенародную барацьбу з фашысцкімі захопнікамі. Музей паказаў завадчанам новыя паступленні і цікавейшыя калекцыі рукапісных і старадрукарскіх кніг, старадаўніх гадзіннікаў, музычных інструментаў, самавараў, нацыянальнага беларускага адзення.

## ПРЫЧОСКІ НА «БІС»

Апладысменты за лепшую жаночую прычоску разам з «Кубкам дружбы» і залатым медалём пераможцы заваявала на буйным міжнародным конкурсе цырульнікаў у Познані Алена Баклушына з Віцебска. Цяпер, пасля вяртання дамоў з перамогай над саперніцамі з краін Еўропы, Амерыкі і Азіі, ёй прыйдзецца для перадачы вопыту не раз паўтарыць свой поспех у прысутнасці калег са службы быту. Паўтарыць, а затым і памножыць: эксперыментальная лабараторыя паслуг цырульняў, куды Алена запрошана з ранейшай работы, чакае ад «чэмпіёнкі» новых фантазій для ўмелых рук з расчоскай.

## БОМБА Ў ГОРАДЗЕ

Вялікая, вагой у цэнтнер авіябомба ўзарвалася ў густанаселеным раёне Віцебска. Але ніхто з жыхароў не пацярпеў.

Сапёры на чале з вопытным афіцэрам абясшкодзілі сваю выратавальную акцыю. Бомба была перанесена ў спецыяльна выкапаную яму, надзейна схавана пад бярвеннямі і тоўстым слоем зямлі. І толькі потым раздаўся глухі выбух.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:
МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Зак. № 1561